# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 20 (1670) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 15 МАЯ 1988 г. ЦАНА 20 зл.




БЕЛАВЕЖСКАЯ РАПСОДЫЯ. ФОТА У. ЗАВАДСКАГА.

## Я ЗА БЕЛАРУСКІ ЗМЕСТ

*Беларускія пісьменнікі не пішуць па-беларуску, а толькі на беларускай мове.*

М. Багдановіч

Праўду горкую, як свой пратэст,
Перадаў калісьці Багдановіч.
Ваяваў за беларускі змест,
А не літары на беларускай мове.

Як жа актуальна гэта ў нас,
Родныя кранаем справы слаба.
Ў нашых вершах мёду шмат, прыкрас,
У сусветным бачымся маштабе.

Верш, сатканы з беларускіх слоў,
Родных спраў круг закранае вузкі.
Ў перакладзе на любую з моў
Гіне цалкам аўтар беларускі.

Нэ жывем у гушчы мы падзей,
Што праходзяць на вачах заўсёды,
Не жывем мы справамі людзей,
Мы ўжо адарваны ад народа.

Трэба нам да сэрца сёння ўзяць
Багдановіча Максіма словы:
Каб па-беларуску нам пісаць,
А не толькі каб на беларускай мове.

**Віктар Швед**

XXX БЕЛАВЕЖА

ІНТЭРВ'Ю ДАЕ ВІКТАР ШВЕД

**У сувязі з набліжаючымся 30-годдзем „Белавежы", нашага літаратурнага аб'яднання, заснаванага ў чэрвені 1958 г., пачынаем цыкл інтэрв'ю з найбольш вядомымі „белавежцамі".**



# НЕ МАГУ НЕ ПІСАЦЬ...

*— Віктар, ужо больш трыццаці гадоў будзе, як пішаш ты вершы. Лічы: праз усё сваё дарослае жыццё — і цяпер, будучы ўжо ў пенсійным узросце. Скажы, як ты думаеш: чаму гэта ты якраз пачаў пісаць? Адзін з Мора роднага ды цэлае ваколіцы, бо ж паняцце таленту ў тваіх думках, натуральна, з'явілася значна пазней.*

— Пісаць вершы пачаў я спантанна яшчэ ў пятым класе даваеннай пачатковай школы. Пісаў на польскай мове, а таксама на мясцовым дыялекце. З беларускай літаратурнай моваю пазнаёміўся я ў савецкай дзесяцігодцы ў Орлі, адкуль у 1940 годзе быў накіраваны са спыткам сваіх вершаў на алімпіяду дзіцячай творчасці ў Бельску. У час жа акупацыі спрабаваў я пісаць па-руску. У пасляваенны перыяд, у беларускіх гімназіях у Гайнаўцы і ў Бельску, пісаў я свае творы на трох мовах: беларускай, польскай і рускай, што сведчыць аб яшчэ слабым тады маім самавызначэнні — хто я. У 1946 годзе выехаў у Варшаву, і там, па розных прычынах, заглухла мая паэтычная ліра на цэлых дзесяць гадоў.

*— Усяляк думаюць і кажуць пра тваю паэтычную творчасць. Аднак, наогул, усе згодныя ў тым, што самая лепшая яе частка — гэта твае вершы для дзяцей. А што менавіта ты хочаш сказаць у сувязі з такімі ацэнкамі?*

— Амаль ад пачатку пачаў я пісаць вершы для дзяцей. Некаторыя „белавежцы" сцвярджаюць, што я павінен канцэнтравацца на гэтай творчасці. Я не падзяляю гэтага.

Для дзяцей трэба пісаць вершы пагоднага характару, жартоўныя, вясёлыя. І такія я пішу. Нашы дзеці паспеюць яшчэ ў жыцці насумавацца. Гэта папершае. А па-другое, пішучы толькі для дзяцей, куды мне было б падзецца з той маёй настальгіяй, якая распірае мае грудзі, настальгіяй за адыходзячым у нябыт маім светам, а таксама з глыбокім пачуццём, што нараджаецца ў сэрцы?!

Я напісаў некалькі соцень вершаў для дзяцей. На словы пяцідзесяці з іх Эдуард Гойлік напісаў музыку. Гэтыя вершыпесні надрукаваны ў „Беларускім календары на 1970 год". На жаль, ніколі я не пачуў аніводнае з гэтых песняў, хоць настаўнікі запэўніваюць мяне, што яны цікавыя. А ў школьныя хрэстаматыі нязменна ўключаюць мае вершы для дарослых, а не для дзяцей. Толькі ў „Чытан-

(Працяг на стар. 5)

# НАША ПОШТА

**Зіне Баранчук з Беластока.** Наколькі мы добра зразумелі Ваша не зусім яснае пісьмо, дык Вы супроць багаслужбаў ды пропаведзяў на беларускай мове... Што ж, Ваша воля. Кожны мае права мець сваю думку, ацэнку. Мы тут не супроць Вас. Але супроць таго, каб глуміць дамаганні часткі беларусаў, якія хочуць маліцца на сваёй роднай мове. Хрыстова навука ўзнікла ж на арамейскай мове. Перакладалі яе пасля на грэцкую і лацінскую мовы, а потым і на іншыя — славянскую, затым на старарускую і г.д. Дык чаму ж не можа быць і па-беларуску?

У канцы свайго ліста Вы адкрыта пішаце, што хоць і лічыце сябе асобай беларускай нацыянальнасці, аднак Вам гэта мова не падабаецца, не любіце Вы яе. І просіце ў нас прабачэння за гэта. Ну, гэтага мы Вам прабачыць не можам. Ніхто Вам не прабачыць пагарды да свайго!

**Мікола Шэляговіч, Мінск.** Вы даслалі нам машынапісную копію „Таинства и откровения нашей речи“. Гэты тэкст, як відаць з яго зместу, складзены кімсьці іншым і датычыць індаеўрапейскіх каранёў палескай гаворкі. Рэч сцісла навуковая, непрыдатная ў папулярную газету, і мы зразумелі, што вы — звычайна — вырашылі трохі асвяціць нас у моўных праблемах Палесся. За асвету дзякуем, а публікаваць не будзем.

(ся)

Больш за сорак гадоў прайшло ад заканчэння вайны, але забыць яе немагчыма. Да сёння невядомыя лёсы многіх людзей, якіх паглынула ваенная завіруха. Напісаў нам ветэран Вялікай Айчыннай вайны **А. Д. Файнберг з Днепрапятроўска.** Шукае ён вестак пра ваенную чыгуначную брыгаду, якая ў 1941 годзе, напярэдадні вайны, будавала чыгунку з Пружан у Белавежу.

Піша ён: „У першы дзень вайны (22 чэрвеня 1941 г. — рэд.) вайсковыя чыгуначнікі выехалі са станцыі Белавежа ў бок Гайнаўкі. На досвітку 23 чэрвеня эшалон трапіў у засаду нямецкага дэсанта і амаль усе воіны загінулі. А было іх каля 1000 чалавек. Мабыць, мясцовыя жыхары пахавалі астанкі загінуўшых салдат у брацкай магіле“.

Аўтар ліста хоча даведацца, каля якой станцыі гэта здарылася. Ён таксама прагне наведаць тое месца, ушанаваць памяць загінуўшых.

За дапамогай звяртаемся да чытачоў. Інфармацыі просім дасылаць у рэдакцыю або беспасрэдна А. Д. Файнбергу, Украинская ССР, 320020 Днепропетровск, пр-т Карла Маркса 93, Дом Союзов, почт. отд. 20. (л)





## Свойскія малюнкі

*Царква ў Пасынках.*
*Мал. У. Петрука*

# ПРАЙШЛО 1000 ГАДОЎ

**Прадаўжаем гутарку з настаяцелем Рыбалаўскага прыхода а. Рыгорам Сасною**

**XIII — І ПАЛОВА XVI СТАГОДДЗЯЎ**

**„Ніва“:** Як прадстаўлялася сітуацыя праваслаўя на нашых землях да уніі?

**Р. С.:** Хрысціянства на Беларусь ішло ад усходу і было гэта хрысціянства праваслаўнае. У XIII ст. аднак назіраем напор лацінскага абраду. Старабеларуская культура занятых Літоўскім княствам беларускіх земляў была вельмі высокая. Імпанавала неасвечаным ліцвінам. Старабеларуская мова сталася дзяржаўнай мовай Вялікага княства Літоўскага, на ёй пісаліся ўсе дакументы (гл. напр. „Літоўскую метрыку“). Праваслаўе ў Вялікім княстве Літоўскім мела ўсе падставы, каб стацца дзяржаўнай рэлігіяй. Так аднак не сталася. Дайшло да дзяржаўнай уніі Літвы з Польшчай (1385) і Ягайла (які паводле даследчыкаў быў найперш ахрышчаны ў праваслаўным абрадзе з імем Якуб — яго маці Юльянія была княжнай Тверскай, Вітаўт меў праваслаўнае імя Аляксандр) выдаў загад ахрысціць літоўцаў у лацінскім каталіцкім абрадзе. Гэты факт змяніў сітуацыю праваслаўя ва ўсім Вялікім княстве Літоўскім. Ягайла, хрысцячы Літву, даў літоўскім баярам такія самыя правы і прывілеі, якія мела польская шляхта, але не дапусціў да іх праваслаўнага баярства. Праваслаўныя князі не маглі быцьураднікамі, не маглі засядаць у вялікакняжацкай радзе. Ягайла, стаўшы каралём Польшчы, забараніў будаваць новыя цэрквы і ладзіць старыя. Вось як пачалося. Праваслаўныя цэрквы пры Ягелонах на беларускіх і ўкраінскіх землях Вялікага княства Літоўскага, далучаных да Польшчы, не мелі права на свабодную дзейнасць, не мелі юрыдычнай апекі, прывілеяў, якімі багата карыстаўся каталіцкі касцёл.

Такім вось спосабам пануючыя і каталіцкае духавенства стараліся спыніць развіццё праваслаўя, а ўсімі сіламі падтрымлівалі слабенькі на нашых землях у той час каталіцызм. Такая сітуацыя з часам спакусіла праваслаўных князёў і баярства. Нават такія беларускія княжацкія сем'і, якія спачатку трымаліся праваслаўя, пачалі адыходзіць ад яго, напр. Сангушкі, Сапегі, Патоцкія, Хадкевічы, Вісняведкія і іншыя. У іх перамог уласны інтарэс. Яны імкнуліся зраўнацца з польскімі і літоўскімі князямі і пачалі прымаць каталіцызм. Больш устойлівым аказаўся народ. Каб да яго дайсці, трэба было шукаць іншых спосабаў. Але аб гэтым у наступным адрэзку. Яшчэ некалькі слоў аб найдаўнейшай структуры праваслаўнай царквы на нашых землях.

Спачатку была адна для ўсіх мітраполія — у Кіеве. Запіс з XIII ст. называе прыналежныя ёй 19 епархій, між іншым, архіепіскапства полацкае, епіскапствы — тураўскае (тут нашы продкі), смаленскае, уладзімірскае.

Ад паловы XIII ст. паўднёвую Русь пастаянна пустошылі татары. Таму кіеўскія мітрапаліты ўсё часцей прабывалі на поўначы — ва Уладзіміры, дзе вырас новы дзяржаўны і рэлігійны цэнтр. Мітрапаліты аднак у далейшым захоўвалі званне „кіеўскіх і ўсяе Русі“. Перанос сядзібы мітрапалітаў стаў прычынай некаторага адрывання паўднёвых і заходніх рускіх земляў ад рэлігійнага цэнтра. Мясцовыя князі пачалі гэты факт выкарыстоўваць з мэтай умацавання сваіх палітычных інтарэсаў — — пачалі старацца ствараць уласныя мітраполіі. На поўдні (на ўкраінскіх землях) такім чынам узнікла Галіцкая мітраполія, а на паўночным захадзе — Літоўская ў Вільні, трэці праваслаўны мітрапалічны цэнтр. На пачатку XIV ст. маем тры праваслаўныя мітраполіі: Кіеўскую (вялікарускую), фактычна Уладзімірскую, а пазней Маскоўскую, Галіцкую — з сядзібай у Наваградку і Літоўскую — у Вільні. Рашэннем Наваградскага сінода ў 1415 г. Галіцкую мітраполію далучылі да Літоўскай як епархію.

Ад 1458 г. да канца XVI ст. у Вялікім княстве Літоўскім, якое ахоплівала беларускія і ўкраінскія землі, існавала асобная праваслаўная мітраполія. (вв)

(Працяг са стар. 2)

# КАНФЕРЭНЦЫЯ БЕЛЬСКАГА АДДЗЕЛА

рэння прадметных гурткоў зацікаўлення беларускай мовай, якія нароўні з іншымі прадметнымі гурткамі могуць існаваць ва ўсіх школах і там можна знаёміць дзяцей з усімі беларускімі справамі, з культурай і гісторыяй, займацца мастацкай беларускай самадзейнасцю.

Паінфармаваўшы дэлегатаў канферэнцыі аб святкаванні гадавін: 68-ай — з дня ўтварэння БССР, 95-ай — з дня нараджэння БранІслава Тарашкевіча і 105-ай — Янкі Купалы, старшыня аддзела паказаў вялікае заангажаванне ў будову Беларускага музея ў Гайнаўцы. З гэтай мэтай вядзецца продаж „цаглінак“ на бацькоўскіх сходах у ліцэі і школе № 3 і на мерапрыемствах у Доме культуры, а на балях арганізуюцца „цаглінкавыя вальсы“.

У справаздачы сябра Ляшчынскі з непакоем гаварыў аб вясковых гуртках БГКТ, з якіх адплывае моладзь, выязджае ў горад, а ў гуртках астаюцца старыя людзі, якіх цяжка да чаго-небудзь актывізаваць.

У дыскусіі Васіль Слюўка звярнуў увагу на недастатковую і скупую інфармацыю ў „Ніве“ і Беластоцкім радыё аб дзейнасці Бельскага аддзела БГКТ. Паводле яго, другой вельмі важнай справай з'яўляецца замена памяшкання аддзела на больш прасторнае.

Янка Мордань закрануў пытанне выбару найлепшых людзей на дэлегатаў XI з'езда БГКТ, які з'яўляецца найвышэйшай уладай Беларускага таварыства.

Андрэй Гаўрылюк дамагаўся, каб як найхутчэй забралі ў Гайнаўку экспанаты, якімі ён запоўніў сені сваёй хаты.

Намеснік старшыні ГП БГКТ Янка Зенюк прысвяціў сваё выступленне патрэбе як мага шырэйшага супрацоўніцтва з мясцовымі арганізацыямі. Ён таксама ад імя Прэзідыума ГП даў высокую ацэнку дзейнасці Бельскага аддзела і яго актыву.

Дэлегаты выбралі новае праўленне аддзела ў ліку 21 чалавека і рэвізійную камісію з 3 асоб. Пасяджэнне праўлення аддзела выбрала прэзідыум у складзе: Васіль Ляшчынскі — старшыня, Тамара Русачык — намеснік старшыні, Анна Бжазоўская — сакратар, Анна Дэм'янюк — скарбнік, Янка Мордань, Аляксей Карпюк і Сяргей Лукашук — члены.

Рэвізійная камісія выбрала старшынёю Паўла Лемеша.

Прадстаўляць Бельскі аддзел на XI з'ездзе БГКТ будуць: Васіль Ляшчынскі, Аляксей Карпюк, Сяргей Лукашук, Вера Рышчук, Тамара Русачык, Раман Ефімюк, Ірэна Таранта, Вячаслаў Рышчук, Альжбета Бэзюк, Дарыюш Фіёнік, Янка Мордань, Валянцін Семянюк, Янка Рошчанка, Павел Лемеш, Уладзімір Гліва, Яраслаў Іванюк і Юрка Манаховіч.

Вёў канферэнцыю Аляксей Карпюк, распачалася яна выступленнямі самадзейнікаў з Беларускага ліцэя.

**Міхась Хмялеўскі**

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Вучні чацвертага класа школы № 3 у Гайнаўцы са сваёй настаўніцай Вольгай Сянкевіч.
Фота Я. Чэрнякевіч

Пятро Рунец

## СУР'ЁЗНАЯ РАЗМОВА

Грышка Сапун вучыцца не дужа старанна, таму і адзнакі ў дзённіку розныя.

Аднаго дня ён прыйшоў са школы, кінуў на канапу сумку і рашуча заявіў:

— Мама, у школу я больш не пайду!

— Чаму? — здзівілася мама.

— Я... не ўмею вучыцца. Пяцёрак мне не ставяць, а двоек сам не хачу. Навошта каб з мяне смяяліся, двоечнікам называлі...

Маці спахмурнела і задумалася: што сказаць сыну? Потым прысела на канапу, абняла Грышку і лагодна загаварыла:

— Ну што ж, дзіцятка, сядзі дома. Толькі чым жа ты будзеш займацца, калі мы з татам пойдзем на работу?

Грышка падумаў і адказаў:

— Пагуляю на вуліцы адзін. А калі прыйдуць са школы сябры, пабягу да іх...

Маці не дала яму дагаварыць:

— Ты думаеш, хлопцы будуць бегаць з табою па вуліцы? Ім жа трэба рыхтаваць урокі. А даведаюцца, чым ты заняты, будуць пальцам на цябе паказваць: „Во які! Замест таго, каб вучыцца, у цацкі гуляе...“

Грышку непрыемна было слухаць горкія словы, і ён аж закруціўся на канапе.

— Падумай сам, — працягвала маці, — усе дзеці ходзяць у школу, адзін ты сядзіш дома. хто на доктара потым вывучыцца, хто на настаўніка, хто на камбайнёра... А ты кім будзеш?

Грышка задумаўся. Сапраўды, кім ён будзе, калі вырасце? Як будзе жыць? Але тут яму ўспомнілася бабуля, і ён адразу павесялеў:

— Мама, а бабуля наша не вучылася, ніводнай літаркі не ведае, а жыве.

— Эх, сынок, гаворыш ты абы-што, — уздыхнула маці і з жалем дадала: — Бабуля, калі хочаш ведаць, вельмі хацела вучыцца, ды школ тады для бедных не было. Таму і засталася непісьменнай. Затое пазней вывучыла свайго сына, твайго бацьку, і ён цяпер корміць яе. А ці зможаш ты, невук, карміць нас, тату і мяне, калі састарымся?

Грышка скасавурыўся і глядзеў на маці так, быццам бачыў яе ўпершыню. Гэтак сур'ёзна з ім яшчэ не размаўлялі.

— Дык што мне рабіць, мама? — разгубіўся ён. — Двоек не хачу.

— У цябе, сынок, ёсць адна паганая хвароба — гультайства. Таму і атрымліваеш дрэнныя адзнакі. Вазьміся за вучобу, як Толя, сябрук твой, і ў цябе з'явяцца чацвёркі і пяцёркі!

Матчыны словы кранулі за жывое. Няўжо ён, Грышка Сапун, горшы за Толю? І, не сказаўшы ні слова, ён узяў сумку і пайшоў у другі пакой — рабіць урокі.

Барыс Крэкоцін

## ДЗІЎНАЯ ХВАРОБА

Пасля званка замест настаўніцы ў клас увайшоў дырэктар і паведаміў:

— Дзеці, ваша настаўніца захварэла. Урок матэматыкі павяду я.

Пачуўшы гэта, Зіна збялела.

— Што з табою? — спытаў дырэктар.

— Раптам пачалі балець рукі і ногі... Адпусціце мяне дадому, — дрыжачым голасам прамовіла дзяўчынка.

— Добра, — згадзіўся дырэктар, — толькі ты спачатку рашы прыклады.

Зіна выйшла да дошкі і хуценька справілася з заданнем.

— Малайчына! — пахваліў яе дырэктар. — Цяпер можаш ісці дадому.

— А ў мяне ўжо нічога не баліць! — весела адказала Зіна.

— Тады сядай на месца, — усміхнуўся дырэктар і паставіў у журнал пяцёрку.

— Што гэта ў цябе за хвароба такая дзіўная? — спытаў на перапынку Шурык.

— Я і сама не ведаю, — паціснула плячыма Зіна.

Шурык задумаўся.

— Якіх толькі дзіўных хвароб на свеце не бывае! Вось каб і мне такую! Адразу б усе двойкі па матэматыцы прапалі!



## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Сяргей Грахоўскі

## УСЁ ПРА МАШУ

Не зраблю, відаць,
прамашку,
Расказаўшы ўсё пра Машку.

### МОДНІЦА

Падарылі Машы
Жоўтыя камашы
І зялёныя калготкі,
Фартушок далі кароткі,
Сарафан у кветкі,
Сінія шкарпэткі.
З белай воўны рукавічкі.
Ёй звязалі дзве сястрычкі.
А каўнер з рудое ламы
Папрасіла Маша ў мамы
І ўгаварыла бабку,
Каб дала адзець ёй шапку.
Апранулася прыгожа
І... пайшла ў падарожжа.
Думала зайсці ў Дом мод.
Але Машы трэці год.

### БУДЗІЛЬНІК

Машы надта ж па душы
„Добрай ночы, малышы“.
Як пачуе калыханку,
Дык засне/
і спіць да ранку.
Спіць і мама без клапот,
А ў кашы вуркоча кот,
Калыханку у паддашы
Галубы спяваюць Машы.
Сніцца Машы дзіўны сон:
Звоніць, звоніць тэлефон,
Запрашаюць Машу ў госці
Да Аленкі і да Косці.
Будзе смачны там абед,
Хоць ісці не блізкі свет.
Маша кажа: „Дзякуй вам,
Нельга ж адмаўляць сябрам“.
Раптам зноў пачуўся звон.
Гэта ўжо не тэлефон —
Звоніць на стале гадзіннік,
І не просты, а будзільнік:
Будзіць тату на завод.
У кашы вуркоча кот,
Фіззарадку робіць брат.
Машы час ісці ў дзетсад.

### „ПІЯНІСТКА“

Просіць Маша несупынна,
Каб купілі піяніна.
— Хочаш музыцы вучыцца,
Музыкантам быць у нас?
— Не, на зэдліку круціцца, —
Кажа Маша у адказ.

### ДВОЕ

Раніцай для Машы
Наварылі кашы,
Не ячменнай, таннае,
А найлепшай, маннае.
Сёння ў Машы выхадны.
Значыць, каша і бліны
Будуць на сняданне,
Калі Маша ўстане.
Маша любіць кашу,
Каша любіць Машу,
І ніхто ніколі іх
Не адолее ўдвaіх.

# ГРОЗНЫ ЗВЕР

Па лесе пракаціўся грозны крык;
Такі прарэзлівы, што Дзік
Ад страху разгубіўся
І ў зараснік лясны зашыўся,
А Лось ажно прысеў.
„Напэўна, — кажа, — Леў!“
„Пра Льва мы тут яшчэ нічогачкі
не чулі, —
Усклікнулі Касулі. —
Калі ж ён завітаць да нас паспеў?“
А крык ізноў пачуўся.
І жах абняў жывое ўсё наўкол.
Даў лататы Казёл,
Тхарок падціснуў хвост, прыгнуўся,
Ад страху аж калоціцца Янот.
І толькі мудры Кот:
„Чаго вы, — запытаў, —
шалееце ў трывозе?
Ну хто ж не ведае, што так
Крычыць адзін Ішак?
Ды вунь жа, вунь ідзе ён па дарозе!
Ну што, убачылі цяпер,
Што гэта не якісьці грозны звер,
А дурань голас уздымае?“

Не думайце, што я хачу каго вучыць,
Я толькі адзначаю,
Што той, хто розум мае,
Ніколі грозна не крычыць.
Ён проста размаўляе.

**Уладзімір Корбан**



**Як размясціць на палях фігуры цыфры ад 1 да 14, каб сума чатырох цыфраў на кожныя з сямі бакоў дала вынік 30?**



Адказ: малюнак.

# НІЎКА



## ПРАДБАЧЛІВЫ

— Дайце мне хутчэй прачытаць што-небудзь пра рыбалку!

— А што так тэрмінова спатрэбілася?

— Нам прызначылі новага начальніка, а ён, кажуць, заядлы рыбак...

## НІЧОГА

Кастусь сядзіць на лаўцы і крэхча ад болю.

— Што з табою, Кастусь? — пытае яго сусед.

— На цвіку сяджу.

— Дык перасядзь на іншае месца!

— Ды нічога... Хутка прывыкну.

## ГУМАР З БАРАДОЮ

### НА ЛЕКЦЫІ ФІЗІКІ

Настаўнік: — Кудуніч, дай прыклад выпуклага люстра.

Вучань: — Ваша лысіна, пане настаўнік.



Фініш!



Бачыць не магу несправядлівасць, таму і закрываю вочы.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Аднойчы ноччу над Лонданам узнялася страшная бура. Маленькі Джоні ў страху прачнуўся і прыбег да бацькі:

— Тата! Чаму ў небе так грукае?

— Ведаеш, сынок, калі хто-небудзь хлусіць вельмі ўжо бессаромна, неба гневаецца і абрушвае на зямлю гром.

— Дык жа цяпер ноч, і ўсе людзі даўно спяць!

— Яно так, але якраз у гэты час у друкарнях звычайна друкуюць „Дэйлі экспрэс“.

*

На срэбным вяселлі муж сарамліва гаворыць жонцы:

— Ці ведаеш, мілая, што наш шлюб, па сутнасці, вынік памылкі?

— Што ты хочаш сказаць? — не зразумела жонка.

— Справа ў тым, што ў той далёкі дзень я махнуў рукою не табе, а праязджаючаму міма таксісту. Спынілася ты.

*



— Ты ведаеш, Педра, кожны раз у час дажджу я адчуваю цяжкасць у галаве.

### З „Весніка Задрыпоніі“

## ДЫЯГНАЗ ПА ТЭЛЕФОНЕ

ставіць новая электронная прыстаўка, падключаная да ачуцінаўскай палікінікі. Дастаткова набраць нумар тэлефона, паведаміць свае скаргі, як вы пачуеце: „Напэўна, вы нешта не тое з'елі, прыміце слабіцельнае, калі не дапаможа — прыходзьце ў паліклініку!“

## ДЫЛЕМА ДАЦЭНТОВІЧА

Калі чалавек гаворыць тое, што думае — ці думае ён?



— Я чуў, што вам патрэбны малады, энергічны кіраўнік.

### З суседскага агародчыка

## ХУХРЫ-МУХРЫ

Там, дзе гнуткая лаза
Туліцца да гаю,
Хлопец дзеўчыне сказаў:
„Я цябе кахаю“.
А яна ў адказ: „Дзівак,
Як жа ўлопаўся
Ты так?
Ну, калі ў цябе любоў,
Возьмем пашпарцішкі,
Прашвырнёмся мы з табой
Заўтра да загсішкі.
З намі там — хухры-мухры —
Пагамоняць, значыць...
А праз месяц — не гарыць —
Штэмпель прысабачаць.
Продкам выдзелім пакой,
Кайшанём на моры...“
— Дарагая, на якой
Мове ты гаворыш?
— А ты мне не залівай
Правіл пунктуацыі,
Не такое шчэ пачуеш
Пасля рэгістрацыі!

**Паўлю Глазавы**



# КУРЁЗЫ

## БРЫЛЬЯНТАВЫ АШЫЙНІК

На гэты раз рэкламаваць брыльянтавыя каралі коштам 20 тысяч долараў было даручана... сабаку па клічцы Пэдзінгтон. Аднак пакуль тэхнікі студыі ў Кальверсіці, штат Каліфорнія, рыхтаваліся да здымкаў прызначанага для паказу па тэлебачанню кінароліка, Пэдзінгтон непрыкметна выслізнуў з памяшкання. Праз пяць гадзін сабаку, які бегаў з брыльянтавым „ашыйнікам“, выявілі на вуліцы члены мясцовага грамадства па ахове жывёл. Што датычыць кіраўніка рэкламнага агенцтва, які здымаў кіналік, то ён, па словах газеты „Інтэрнэшнл геральд трыбюн“, пастарэў адразу на 10 гадоў.

## КАРОВА — „КАРЛІК“

13 год працавалі мексіканскія вучоныя над вывядзеннем самай маленькай у свеце каровы, рост якой не перавышае 61 сантыметр. Атрыманая асобіна, на думку яе стваральнікаў, стане роданачальніцай новай пароды жывёлы — карлікавых кароў. Іх прадуктыўнасць — 4-5 літраў малака ў дзень. На тым жа гектары зямлі, дзе звычайна пасецца адна „вялікая“ карова, цалкам могуць суіснаваць восем маленькіх, піша парыжскі журнал „Вандрэдзі-самдзі-дзіманш“.




Хто не працуе, той, як прапіла, п'е.